сьмерць і 13 чэрвеня павешэн у сувальскай турме.

МІТАВА. Галоўнакамандуючый на Усходзе прынц Леопольд Баварскі быў 25 чэрвеня ў сталіцы Курляндыі. Адгэтуль ён паехаў у важнейшые месты Курляндыі.

## Украіна.

ЯСЫ. С прычыны недаразуменьня ў справе назначэньня Румыніей губэрнатара Бэссарабіі пастаноўлено замест губэрнатара назначыць за начальніка ўпраўленьня Бэссарабіей асобнага камісара з агранічэнымі правамі.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

КІЕУ. Перэгаворы аб паўночных граніцах Украіны вызвалі гарачую спорку. Пастаноўлено ўзяць войска са спорных зямель і даць магчымасьць жыхарам самым падаць свой голас на шырока-дэмакратычнай аснове. Мешаная камісія будзе пільна налегаць над падачай народам голасу.

МАСКВА. Галава спаўніцельнага камітэту ў Кацярынбургу наказывае, што вестка аб забойстве бышага цара — гэта праваКатарская брэхня.

МАСКВА (П.Т.А.). 30.VI. Камісар заграмічных спраў падаў пратэст проці бытнасьці англіцкіх войск на Мурманскім узьбярэжжы.

КІЕУ. „Киевск. Мысль“ наказывае, што у Владывостоку высадзіліся японскіе войскі дзеля паддзержкі чэха-славакоў. Глаўная кватэра чэха-славакоў — у Харбіне.

ЛОНДОН. «Times» наказывае с Пецярбурга, што апошніе тры дні хлеба і бульбы тут не выдавалі. Мужчыны і жонкі валяюцца на вуліцах і паміраюць з голаду. Чырвоная гвардыя робіць рэквізыцыі ў ваколіцах сталіцы; пры гэтым узьнімаюцца крывавые бітвы. Савецкі ўрад апавесьціў дэкрэт, паводлуг каторага адзінокіе чырвонагвардзейцы атрымліваюць у месяц па 150 руб, а сямейные—па 250 руб.

КІЕУ. Паводлуг украінскіх вестак, чутка аб тым, што пры адступленьні большэвікоў с Кацярынбурга забілі бышага цара, пацьвярджаецца.

У Сібіры ўтварыўся ўрад с соцыял-рэвалюцыанераў і меньшэвікоў, каторым кіруе Сазоноў. Між гэтым урадам і ўрадам японскім адбываюцца перэгаворы.

ЛОНДОН. На конфэрэнцыі англіцкай работніцкай партыі, на каторай было высказано жаданьне далейшай вайны, апынуўся і Кеpэнскій, каторы прыехаў сюды з Масквы. Ен сказаў, што расейскі народ гатоў ізноў пачаць вайну поплеч с сваімі саюзьнікамі.

КОПЭНГАГА. Керэнскаму нейкім невядомым способам удалося праехаць праз усю Расею і папасьці ў Лёндон. Адгэтуль ён зьбіраецца ехаць у Парыж і Нью-Іорк.

КІЕУ. Вядомы боўгарскі генерал Радко Дмітрыев, у часе вайны занімаўшый высокае становішчэ ў расейскай арміі, атрымаў цяпер высокае назначэньне ў амэрыканскай арміі.

## З УСЯГО СЬВЕТУ.

ВЕНА. Офіцыозная «Wiener Ztg.» друкуе найвышэйшы загад, паводлуг каторага міністэрства Зэйдлера астаецца на сваім становішчы і аўстрыяцкі парлямэнт сазываецца на 16 ліпня.

МЮНХЭН. Так-званая „гішпанская хвароба“ пашырылася і ў некаторых ваколіцах Баварыі. Яна шпбка шырыцца па краю.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньні.

28.VI. Заходні тэатр.

Наабапал Соммы жывейшая чыннасьць ворагаў. Сяговьня раніцай варожы агонь значна крапчэў наабапал Ліс, між Баёль і Бэтюн і на поўдні ад Эн.

Зьбіты 29 варожых самалётаў і 1 прывязны лятучы шар. Капітан Бэртольд дайшоў 37-й пабеды.

29.VI. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* На поўначы ад Ліс узьняліся першые штурмы англічан. Яны адбіты. Толькі ў цэнтры фронту ворагі ўварваліся у В'е Бэркэн. Контратакай яны адкінуты на заход ад вёскі.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* На поўдні ад Эн францызы атакавалі пасьля сільнага агню. У крывавых бітвах яны адбіты. Толькі пры Кітры яны пасунуліся ўпярод. Контратакай мы адкінулі іх на вяршыны наабапал вёскі. Пры Віле-Котрэ мы гналіся за ворагамі за яго ўласные лініі і ўзялі палонных.

Зьбіты 19 варожых самалётаў. Лейтэнант Удэ дайшоў 35 пабеды.

Пад Рэймсам мы ўзялі ў палон 20 італьянцаў.

30.VI. Заходні тэатр.

На поўначы ад Ліс і на поўдні ад Эн—жывейшая чыннасьць артылерыі. Між Іззр і Марн—дробные пяхотные стычкі.

Лейтэнант Удэ дайшоў 36 е пабеды на паветры.

### КАЛЯ ВАЙНЫ.

ВЕНА. 30.VI. Урадова. На плоскагоры Сямі Грамад пасьля найсільнейшага артылерыйскага агню ворагі пачалі штурмы проці Коль дэль Россо і Монтэ ді Валь Бэлья. Пасьля крывавых штыховых бітв італьянцам удалося ўварвацца на нашу пярэдную лінію на Монтэ ді Валь Бэлья, але контратакай яны адтуль былі выкінуты. Ува ўсіх іншых пунктах іх штурмы зламаліся пад нашым агнём.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі у Ірляндзкім моры ізноў затапілі 20.000 т.

БЭРЛІН. У Сярэдземным моры нашы падводные лодкі ізноў затапілі 21.000 тонн.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 28.VI. На работніцкай конфэрэнцыі, на каторай былі прэдстаўнікі ўраду, была прынята рэзалюцыя з дамаганьнем паступовай рэформы грамадзкага ладу. Рэзалюцыя трэбуе соцыялізацыі прамышленасьці.

У дзень француского нацыянальнага сьвята апавешчэно, што англіцкі народ гатоў бараніць Францыю нават тады, калі-б Парыж быў узят і порты у канале Ляманш папалі ў нямецкіе рукі.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.